перамі, з якіх відаць падгатоўку новаго паўстаньня. Падарожа караля Гэорга ў Ірляндію адложэна с прычыны баязьні, што яго прыезд могбы паслужыць сыгналам да рэво люціі.

Англіцкае правіцельство не важыцца узлажыць агульную ваенную павінасць і на Ірляндію.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньня:

6.IV. Заходні тэатр:

Артылерыйская бітва на фронці Артуа шмат узмацавалася. Пры Сапіньёль, на поўначы ад Рэймсу, мы ўзялі ў палон 15 афіцэроў і 827 салдатоў і здабылі 4 мінамёты і 10 кулемётаў.

Пры Дуэ мы знішчылі англіцкую лятучую эскадру с 4 самалётаў.

Барон ф. Ріхтгофэн збіў сваіх 35 і 36-го ворагоў. Апрыч гэтаго, ворагі утрацілі ешчэ 10 самалётаў.

У нас нехватае 3 самалётаў.

Усходні тэатр:

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Каля Рыгі, Іллукшта, Таболаў, Залатой Ліпы і Нараёўкі расейская артылерыя развівала сільны агонь.

На палудзенным заходзі ад Бэрэжан расейцы ўзарвалі адну міну.

3 красавіка мы ўзялі пры Таболах 130 афіцэроў, больш за 9500 салдатоў, 15 гармат, 150 мінамётаў і кулемётаў, ды шмат ваенных матэр'ялоў.

На фронтах *эрц-гэрцога Іозэфа*, *Макензэна* і *Македонскім* — наагул, без перамен.

## Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА 5.IV. Усходні тэатр: (гл. нямецк. апав.).

Італьянскі тэатр: Італьянскіе лятуны абкідалі бомбамі Брэсіну і Сістіанс.

ВЕНА. 6.VI. Усходні тэатр: (гл. нямецк. апавешч.).

Італьянскі тэатр: Нічога выдатнаго.

Некольк эскадр нашых марскіх лятуноў абкідалі Градо і Горго найцяжэйшаго і цяжкаго калібру бомбамі. Адзін з нашых лятуноў не вярнуўся.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. (Б.Т.Б.). 6.IV. Ад 30 марца па сягоняшні дзень нашымі падводнымі лодкамі ізноў затоплено 134.000 тонн.

## Нямеччына і Амэрыка.

ВАШЫНГТОН. (Рэўтэр. В.Т.Б.). Ніжняя Палата прыняла рэзолюцію аб вайне.

ВЕНА. Аўстрыяцка-вэнгерскі пасол у Вашынгтоне атрымаў загад разарваць дыплёматычные зносіны са злучэнымі Штатамі і узяць пашпарты свае, членоў пасольства і консульств.

Офіцыальны «Fremdenblatt» бачыць у гэтым праяву неразрыўнаго саюза між Аўстрыей і Нямеччынай.

ВАШЫНГТОН. (Рэўтэр). Правіцельство зажадало ад конгрэссу ўраз жэ даць крэдыты для арміі і флоту на 15 мільярдоў марак, у тым ліку для арміі — 13 мільярдоў.

НЬ'Ю-ІОРК. Амэрыканскае правіцельство пазбавіць волі тых амэрыканскіх немцоў, каторые ня згодзяцца з ваеннай палітыкай Злучэных Штатоў.

НЬ'Ю-ІОРК. У Вашынгтоні вельмі нездаволены Карранцай, бо ён на пытаньне амэрыканскаго правіцельства, як ён думае аднасіцца да нямецкай агітаціі ў Мэксыцэ, не даў ніякаго адказу.

## Спіс ваенна-палонных з нашаго краю.

З Вільні і Віленскай губэрні.

### Табор для ваенна-палонных Lansdorf.

Паўлоўскі Кароль, Сінцы.
Даліневіч Владыслаў, Лідзянцы.
Малішэўскі Міхал, Высокі Двор.
Панцюковіч Іван, Заполе.
Грыгут Адам, Стары Двор.
Купрыяновіч Павал, Дзедукі.
Шэран Антон, Лінкманскі.
Шаблінскі Казімір, Вільня.
Якублёнак Казімір, Грэзуны.
Чэснулевіч Александар, Шуруч.
Поленіс Вінцэнты, Ербарск.
Керыс Язэп, Яніпкі.
Дамісэвіч Алаксандар, Евье.
Алекур Міхаіл, Лігмянск.
Машайліс Станіслаў, Нешкары.
Кобцух Геронім, Вільня.
Антоновіч Язэп, Мойщац.
Мордус Броніслаў, Вільня.
Шыбайлоў Нікоцэм, Сьвенцяны.
Пукас Осіп, Шурвінск.
Пальюкас Александар, Чырвінск.
Цацук Міхаіл, Кулешын.
Блеккэ-Стігаб Фрідрых, Дзісна.
Рапопорт Мэер, Чэрневічы.
Блёх Абэль, Снія.
Сай Ёсель, Дзісна.
Зэтлін Якуб, Вільня.
Казэв Іцык, Вільня.
Букасін Ісаак, Еды.
Дадідовіч Есель, Вільня.
Дземідовіч Пётр, Войстом.
Богдановіч Мікалай, Вільня.
Полуян Пётр, Подгалішкі.
Олейнікоў Франціш, Вільня.
Дайгэс Станіслаў, Богдзюшы.
Новекі Васіль, Лебедзево.

(Далей будзе).



## АБВЕСТКІ.











Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Редактар В. Ластоўскі.